# Найбольшае нявольніцтва сусьветнае гісторыі

Частковая справаздача аб мэтодах НКВД.

Каетана Клюга

RPA-ZB

# Зьмест

I.

# Я быў выхаваны ў марксістоўскім духу

Мой бацька быў майстрам пры горных будоўлях у Пібэрштайн у Штаермарк. Ен быў сацыял-дэмакратам. Кіраўнік маёй школы быў марксістам. Як правадыр аддзелу аднае аўстрыйскае марксістскае аргаізацыі я прыймаў удзел у чырвоным паўстаньні супроць ураду Долльфуса 12 лютага 1934 г. у Лінцы. Мяне хацелі арыштаваць і дзяля гэтага я ўцёк у Чэхаславакію.

Як палітычны эмігрант я апыніўся ў лягеры Збраслаў каля Прагі і папаў пад уплыў сырэніх тонаў бальшавіцкае прапаганды. 22 верасьня 1935 г. я атрымаў ад праскае дырэкцыі паліцыі права ўезду ў Савецкі Саюз.

З якімі надзеямі і ідэаламі я пераходзіў савецкую граніцу! Я верыў, што я знаходжуся ў вялікай краіне спаўненьня ўсіх сацыялных ідэалаў і праблемаў, каторыя так непакоілі і займалі мяне ў дасюлешнім маім жыцьці. Першыя мае крокі ў Савецкім Саюзе пайшлі добра. Кулісная і ліцавая старана савецкае прапаганды паказала сябе ў поўным блеску. Мы атрымоўвалі добрую ежу, прыгожую кватэру ў маскоўскім готэлі, а апрача гэтага мяне назначылі на віднае і кіраўнічае становішча. Адное толькі мне не падабалася, што ад нас адабралі дарожныя пашпарты і мы іх больш і ня пабачылі.

Дзякуючы майму становішчу я мог мець беспасрэднюю сутычнасьць з рабочымі. Так, паміж іншым, я сьцьвердзіў, што ўсе рабочыя атрымоўваюць ніжэйшую аплату, чым прадбачыць тарыф. Асабліва рэзка кідаўся ў вочы той факт, што за прыгожымі фасаднымі дамамі, пра каторыя камуністы рабілі столькі шуму, уся рабочая маса жыла у разваленых бараках і спэлюнках, тады калі чырвоныя

найміты жылі ў прыгожых дамах. Тлум, каторым я меў апекавацца, не атрымоўваў таксама ніякай вопраткі.

Я адкрываў нязьлічаныя недахопы і зло. На адным паседжаньні Цэнтральнага Камітэту я ўзяў слова і сказаў усё, што меў на

С.С.С.Р.
Народный Комиссариат
Внутренних дел
Управление Воркутстроя
„__“ ______ 194_ г.
№ ______
Адрес: пос. Воркута, Архангельской области.

Справка
Форма № 2.
Дана гр. ______
______ рождения ______ года
уроженцу ______
осужденному ______
„__“ ______ 19__ г. по ст. ст. ______ УК
к заключению в ИТЛ на ______
из Воркутстроя НКВД СССР освобожден „__“ ______ 19__ г.
Прошлая судимость ______
Видом на жительство служить не может.
При утере не возобновляется.
Начальник ______
Начальник УРЧ ______

Гэткае пасьведчаньне атрымаў Каетан Клюг 27 красавіка 1941 г. пасьля звальненьня з карнага лягеру каля Паўночна-Ледавітага мора. У расейскім тэксьце гаворыцца, што Клюг адбыў 5 гадоў прымусовых работ і звальняецца з Лягеру ў Варкуце. Адначасна яму прыказана пасяліцца у Балаклеі каля Харкава. Начальнік лягеру, каторага подпіс знаходзіцца на пасьведчаньні, носіць жыдоўскае несфалшованае прозьвішча Люстгартэн.

сэрцы. Я здаваў сабе справу, што я сабе гэтым шкодзіў. З прычыны школьнага пытаньня я папаў таксама ў канфлікт. Варункам прыйма ў школу было вымаганьне, каб дзіця пакідала бацькаўскі дом і ўсёцэла выхоўвалася партыяй. Я пачаў барацьбу з такім станам рэчаў. І тут першы раз пала проціў мяне слова „шпіён“.

II.

# У кіпцюрах Н.К.В.Д.

Аднаго дня маю жонку зачапіла на вуліцы старэйшая кабета і прасіла памагчы ёй ісьці, бо ёй дрэнна. Нічога ня прадчуваючы мая жонка пайшла з ёй. Гэтая кабета затрымалася перад будынкам нямецкага пасольства і хацела зацягнуць туды маю жонку, але апошняя рашуча адмовілася. Старэйшая кабета ўвайшла сама ў



„Раптоўна запаліліся на мамэнт ўбудаваныя ў бочныя сьцены рэфлектары і у скосна стаячым люстры я ўбачыў, што з-заду стаяць тры мужчыны і прыцэлівюацца страляць у мяне.“

пасольства. У гэты-ж самы вечар быў пастаўлены мне закід, што ў нямецкім пасольстве знайходзяцца лісты з прозьвішчамі ўсіх палітычных эмігрантаў. Скора' зьявіўся сэкрэтар Камінтэрну і пазволіў сабе выказваць усялякія бязстыдныя падазраньні. Тады я зажадаў ад Камінтэрну правядзеньня следчай працэдуры, катопая 4. 4. 1936 г. была закончана. Усе абвінавачаньні не маглі быць падцьверджанымі, але было пастаноўлена выключыць мяне з камуністычнае партыі, дзеля таго што я нібы быў аўстрыйскім жандармам. Усе гэта было толькі пустым вымыслам.

Ноччу 26. 4. 1936 г. я быў арыштованы у маскоўскім готэлі Балчуг праз Н.К.В.Д. бяз паданьня якіх колечы прычын. Мяне завялі ў сьледчую турму Лубянка IV. Пасьля некалькіх дзён забралі ад мяне ўсе мае пажыткі і перавялі мяне ў Лубянку I, дзе сядзелі палітычныя праступнікі. У гэтай адзіночнай турме я павінен быў прасядзець 5 месяцаў. У палове чэрвеня сьледчы судзьдзя пераслаў мне акт абвінавачаньня, дзе ставіляся мне закіды шпіянажу, ведзенага мной быццам па загаду аўстрыйскае паліцыі.

## 72 гадзіны перакрэснага дапросу

Цяпер зьявідася Н.К.В.Д. з сваімі спэцыяльнымі мэтадамі. За кароткі час мяне дапрашывалі больш за 30 разоў, каб мяне зусім змарыць і прывясьці да вар'яцтва. Цапісовай штучкай у гэтым пекле быў дапрос, каторы пачаўся 26 жніўня ў 9 гадзін і прадаўжаўся 72 гадзіны бяз перарыву ці інакш 3 дні. Дапрашывалі мяне 3 сьледчых судзьдзі, каторыя на перамену зьмяняліся. Адным з гэтых судзьдзяў была агідная, таўстая жыдоўка, каторая так подла паступала са мной, што я мусеў ей гэта забараніць. Гэтая мэгэра усе зсоўвала блюзку паказваючы пазуху і двузначна на мяне пазірала.

Часамі пазвалялі мне заснуць на 10 мінут, потым раптоўна ізноў будзілі і задавалі неспадзяваныя пытаньні. На заканчэньне паказалі мне пратакол у расейскай мове і вымагалі каб я падпісаў. Я адмовіўся даць свой подпіс і мяне павялі ізноў у маю камэру.

## Практыкаваньне страляньня ў затылак пры сьвятле рэфлектараў

Калі мяне вызвалі з мае камэры 30 жніўня, я нічога ня ведаў, што дзень перад гэтым у гэтых прызрачных мурах былі расстрэляны засуджаныя з працэсу Каменеў-Зіноўеў-Троцкі. Гэтым разам жалезная, гэрмэтычна замкнутая вінда завязла мяне 6 ці 7 этажоў ніжэй у падзямельлі Лубянкі. Калі вінда адкрылася я апыніўся у пустым, сільна асьветленым пакоі, а начальнік адразу сказаў, што я буду расстрэлены. З адбязпечаным рэвольвэрам выпхнуў ён мяне на калідор, на праціleжным канцы каторага прыцёмненая электрычная лямпа давала столькі сьвятла, каб можна было знайсьці кірунак. Падлога была пакрыта кілімам, каторы глытаў кожны шум. Калі я ішоў, раптоўна запаліліся на мамэнт сільныя рэфлектары на бакавых сьценах і я глянуў у скосна настаўленае люстра — за мной стаяла 3 чалавекі з рэвольвэрамі, скіраванымі на мой затылак. Гэтая штучка паўтаралася некалькі разоў, пакуль я не дайшоў да канца калідору. Потым раптоўна згасла і галубое сьвятло і запала цемра, раскрыліся дзьверы а перад мной вырас сьледчы судзьдзя і запрапанаваў мне падпісаць пратакол з папярэдняга дапросу. Уся гэтая працэдура так мяне змучыла, што дрыжалі мне калені. Гэты няздарны манэўр суддзьдзі прывёў мяне да прытомнасьці. Я адмовіўся даць подпіс і тады мяне ізноў павялі ў маю камэру.

## Прысуд на 5 гадоў карнага лягеру

Наступнай ноччу мяне завялі ў Бутырскую турму і пасадзілі ў агульную камэру разам з іншымі палітычнымі вязьнямі. Гэтая маскоўская турма зьяўляецца старым, гразным, сьмярдзючым і заплюскненым будынкам. У камеры, прызначанай на 28 чалавек, сядзела цяпер 112 і такім чынам ня было магчымасьці ні сядзець ні ляжаць, толькі стаяць цела пры целе. Панаваў тут такі смрод, што можна было задушыцца. Я атрымаў расстройства нэрваў.

Урэшце 10 кастрычніка мяне паклікалі. Цяпер спала заслона! Мяне паведамілі што за контррэвалюцыйную, трацкістскую работу я засуджаны на 5 гадоў карнага лягеру і буду адтранспартован у лягер Караганда ў Сярэдняй Азіі у т. зв. галодны стэп. Я тады-ж запратэставаў проці гэтых крычачых да неба мэтадаў высылаць не даказаўшы віны, але гэпіст бязстыдна сьмяючыся сказаў мне: „Ну добра, ідзеце ўжо.“

Пасьля таго, як я прыступіў да галоднага штрайку, на паты дзень пазволілі мне пабачыцца з жонкай, пад наглядам сьледчага судзьдзі. З захаваньня мае жонкі я зразумеў, што мне яе зрабілі як-бы чужой. Бо як потым я даведаўся з яе лістаў. Н.К.В.Д. забрала яе таксама ў адпаведнюю апрацоўку. Некалькі дзён таму назад яна атрымала расейскі пашпарт, а тым самым яна і двое дзяцей атрымалі расейскую дзяржаўную прыналежнасьць. Н.К.В.Д. з сваімі сатанічнымі мэтадамі перакапала маю жонку і сям'ю, што я зьяўляюся подлым праступнікам. Мая жонка, застрашаная тэрорам Н.К.В.Д. думала, што прыймаючы расейскае подданства яна аблягчыць лёс сваіх дзяцей. Такім чынам гэтым подлым сабакам удалося і вонкава і ўнутрана аддзяліць мяне ад мае сям'і. Адносна мяне савецкія ўладары пасунулі яшчэ далей сваю подласьць. Два гады пасьля мае зсылкі, як я даведаўся аб гэтым ужо ў Нямеччыне з лістаў мае жонкі, майго тады 17½ годняга сына Вільлі саслалі на 8 гадоў карнага лягеру на Камчатку. Такая расправа з маёй сям'ей зьяўляецца тыповай для савецкае праступнае сыстэмы. Мая бедная жонка жыве і цяпер каля Масквы пад сталым дазорам і націскам Н.К.В.Д., разлучаная з мужам і сынам у вечным страху, што ёй забяруць і малодшага сына, каторы цяпер мае 10 гадоў.

## Цёмная камэра з 60° гарачыні

Чэцьверць году пазьней, калі я зрабіў свайго роду падарожжа праз турмы на прасторы 4.500 клм. прывязьлі мяне ў Караганду. У Ніжнім Ноўгарадзе Н.К.В.Д. выступіла з неспадзеванай

прапазыцыяй — а іменна — я атрымаю свабоду, калі прыйму савецкае подданства.

Гэтыя крэатуры робяць ўсе аксамітна і каварна, з безбаронным і бязпомашным галавекам робяць тое, што захочуць. Я адмовіўся прыняць савецкае подданства. За гэта пасадзілі мяне ў цёмную камэру.

Гэтая камэра знаходзілася ў падвале, мела вялічыню 4 $м^2$ і бэтонную падлогу, вылажаную асфальтам. Пасярэдзіне было высокае ўвінчанае крэсла, вокны былі зацемнены бляхай. На сьценах знаходзіліся 2 вэнтылятары. Мяне распранулі аж да кашулі, пасадзілі на крэсла і паднялі яго ў гору так, што я мог гойдацца. У камэры была мокра а тэмпэратура — $2^0$ да $4^0$ цяпла. Хутка камэра пачала шыбка награвацца, так, што тэмпэратура дайшла да $60^0$ гарачыні. Я пацеў. Потым тэмпэратура пачала ізноў спадаць і дайшла да пачатковага стану. Тады ізноў я дрыжаў з холаду. Гэткія штучкі рабілі яны мне 3 разы на дзень, аж я пачаў пляваць кроўю. На шосты дзень мяне вывялі і базстыдна ізноў запрапанавалі прыняць савецкае подданства. Але чакала іх расчараваньне. Ніколі, а асабліва цяпер ня прыняў-бы я савецкага подданства, бо тады я мусеў-бы зусім пахаваць свае надзеі.

Бяда таму чужастранцу каторы ў мінуту слабасьці згодзіцца і прыйме расейскае подданства! Тады ён ужо прапаў! Ніколі ня ўдасцца яму ўжо вырвацца з аграмаднае турмы, каторая называецца Савецкім Саюзам.

III.

# Дзяржаўны гандаль нявольнікамі і грабёж людзей

Сыстэма гандлю нявольнікамі і грабёж людзей з бегам гадоў была так вырафінавана разбудована і замаскована, што нажаль, толькі нямногія маглі яе пазнаць у ва ўсёй цэласьці. Зразумела,

што ўвесь Савецкі Саюз зьяўляецца свайго роду нявольнічай калёніяй, дзеля таго што ўжо ад пачатку тэрару людзі знаходзіліся пад уладай адзічэлай клікі жыдоўско-бальшавіцкіх праступнікаў з Крэмлю. Падчас мае 5-ці гадовае зсылкі горкая рэчаві-




**Абшар карных лягераў у Савецкім Саюзе.**

Пунктованыя лініі азначаюць „этапы“, каторыя адбыў аўтар гэтае брашуры.

стасьць навучыла мяне разрозьніваць розныя ступені і адценкі ў гэтым нявольніцтве. Калі-б гэта ўсё ня прышлося мне перажыць, я не змог-бы паверыць, што бальшавікі да такой ступені патрапілі пад’ярэміць і зьняволіць народныя масы.

## „Гуляг“ дастаўляе нявольнікаў!

Дзякуючы м. зв. „зсылцы праступнікаў“, Сталін і ягоныя таварышы большай часцьцю выпаўнялі свае вядомыя гаспадарчыя пляны.

Такім чынам паўстала 12 вялікіх карных лягераў Савецкага Саюзу, а іменна: 1. Воркут.-Печ.-Ухт. лягер для палітычных праступнікаў, 2. Колема (Далёкі Усход), 3. Марінск (Паўночная Сібір), 4. Караганда (Сярэдняя Азія), 5. Ташкент, 6. Вастравы Вайгач (Ледавітае мора), 7. Карэлія (на фінскай граніцы), 8. Мурманск, 9. Дальні-Усход-Сахалін, 10. Кап Чэлюскін, 11. Будова каналу ў Растове на Дану, 12. Будова каналу Волга-Кама-Пячора.

У гэтых лягерах знайходзіцца найменш 15 мільёнаў карных зсыльнікаў, а яшчэ больш выгнанцаў і прымусовых перасяленцаў, каторыя прысуджаны да нявольнічай працы.

Пасля кароткага побыту ў лягеру Караганда я быў сасланы у Воркут.-Печ.-Ухт. лягер на паўночны Урал каля Ледавітага мора, дзе большасьць палітычных зсыльных вяла сваё нэндзнае жыцьцё ў палатках пры 50° холаду. Дзьве адміністрацыйныя адзінкі лягеру УРС і УРО, складаюцца амаль выключна з жыдоў і зьяўляюцца адказнымі за выпаўненьне ўсіх праектаў. Заказы нявольнічага матар'ялу праводзяцца ў Маскве праз т. зв. „Гуляг". Гэты „Гуляг" зьяўляецца асобым аддзелам унутранага камісарыяту і мае сядзібу у Лубянцы. Ягоным шэфам зьяўляецца шэф Н.К.В.Д. — Бэрыя. Каб дастарчаць лягерам патрабаваны нявольнічы матар'ял, Бэрыя патрабуе толькі расшырыць хвалю арыштаў. У практыцы „Гуляг" зьяўляецца „спэкуляцыйным раем", у каторым жыды зарабляюць ня толькі аграмадныя грошы, але таксама атрымоўваюць адзначэньні рознымі ордэрамі.

„Гуляг" заключае догаворы з дзяржаўным банкам, каторы аплачвае яго за дастаўку нявольнічага матар'ялу. Надвыжку дзеляць між сабой жыды з „Гулягу". Так, у гэтай сыстэме жыды ашуківаюць адзін другога коштам нявольнікаў працы. Гандэль зьяўляецца гандлем, нават калі ен вядзецца людзкім матар'ялам!

## Жудасьць этапаў

Я падаю тут толькі прыклады, перажытыя мною, каторыя адчынілі мне вочы на подласьць гэтае нявольнічае сыстэмы. Праз „этап" трэба разумець зборны транспарт ахвяраў Н.К.В.Д. з ва-

строгаў мейсца арышту да карных лягераў, ці транспарт з лягеру да лягеру. Я сам, высланы з Масквы прабыў 12.000 клм. этапнае дарогі цягнікам, 1.200 клм. караблём і 3 этапы на 1.200 клм. пехатой.

Гэткая язда па этапах зьяўляецца амаль нявынасімай, аб чым сьведчаць частыя самабойствы. Ужо з пачатку адбіраюць ад зсыльных усе, што яны маюць, а да лягеру яны зьяўляюцца так, як стаяць. Тады ўкідаюць іх ў спэцыяльныя вагоны для вязьняў, дзе ў аддзелах на 9 чалавек сядзяць 12—14 людзей за кратамі і пад строгім надзорам. Усю дарогу яны адбываюць лежачы. Ноччу Н.К.В.Д. з лятаркамі кожныя 10 мінут спраўджае рады зсыльных. На дзень даецца хлеб, селядзец і 15 грамаў цукру. Пры гэтым можа здарыцца, што камусь прыпадзе толькі галава ці хвост ад селядца, бо нават і падчас этапу жыды стараюцца выкарыстаць свае ўпрывілегаванае становішча пры Н.К.В.Д.

Жыды не зьяўляюцца такімі звычайнымі зсыльнымі як мы. Іх засуджываюць толькі для віду і высылаюць у лягеры як шпіцляў. Яны працуюць толькі пры лёгкіх работах. Ужо пасьля некалькі месяцаў іх адпускаюць, калі яны ўжо выпаўняць сваю шпіцлёўскую работу. У маім вагоне знаходзілася тры такіх тыпы. Яны, дзялілі харчы паводле т. зв. „каму-сыстэмы“, так, што ім пападаліся найлепшыя кавалкі. Селядцы яны дзялілі на столькі кавалкаў, колькі чалавек знаходзілася ў вагоне. Адзін жыд станавіўся з лістай у руках, а другі дзяліў селядца. Вынік атрымоўваўся такі што хвост ці галаву яны ўпіхалі таму, каму хацелі.

Падчас этапнай язды не даюць зусім гарачай стравы ці напіткаў. Таксама не дазваляецца свабодна рухацца ці мыцца. Гора таму, хто на этапе захварэе - лекарскай помачы падарозе зусім няма. Тыповым зьяўляецца тое, што этапныя цягнікі адпраўляюцца у першую чаргу.

Калі разагрэюцца колы ў вагоне, то вагон не заменяюць другім, але адчапляюць ад этапнага цягніка, каторы йдзе далей. Для зсыльных чаканьне на далейшы транспарт раўназначна з голадам, бо дадатковых харчоў на час чаканьня ня даюць. У маім выпадку здарылася такое чаканьне у працягу 48 гадзін.

Падчас этапу адносіны да зсыльных вельмі суровыя, часта праводзяцца вобыскі. Калі напр., у каго небудзь знойдуць больш як дзенную порцыю хлеба, то адбіраюць ад яго і пішуць пратакол — „падрыхтоўка да ўцечкі“. Гэта азначае, што пасьля прыбыцьця ў лягер такі зсыльны атрымоўвае некалькі гадоў лягеру дадаткова.



**Работнікі з прымусовай працы падчас пяхотнага этару у карны лягер затрымоўваюцца перад станкамі, т. е. урыхтованымі на працягу 40 клм. станцыямі, каторыя іх заспасабляюць харчамі.**

Гэтыя пяхотныя этапы зьяўляюцца найбольшым страхам для зсыльных. 800—2000 зсыльных пад стражай 120 гэпістаў і 40 дрэсіраваных сабак адбываюць гвалтоўныя маршы праз пустынныя ваколіцы. Адстаць у гэтым маршы зьяўляецца раўназначным сьмерці.

Калі ў каго-небудзь Н.К.В.Д. знайшло нож або кавалак мэталю, каторым ён думаў рэзаць хлеб, то яму робяць пратакол за тое, што ён мае аружжа. Такі чалавек найчасьцей потым бывае расстрэляны.

Тых хворых, каторых не аддалі да шпіталю падчас язды цягнікам, у выпадку пяхотнага этапу расстрэліваюць. Найстрашней-

шымі зьяўляюцца пяхотныя этапы. Гэткі этап, каторы складаецца з 800 да 2.000 зсыльных, 120-ці гэпістаў і 40 дрэсіраваных сабакаў, падчас маршу мусіць адбывацца ў цесных радах. Калі падчас маршу падзярэцца абутак ці вопратка, то і ў такім стане марш адбываецца далей. Зсыльныя, змучаныя і апатычныя ідуць раўнадушна да мэты падарожжа. Калі хтось адстае падчас пешага этапу, то яго цкуюць сабакамі.

## Лоўля людзей пры помачы розных пароляў

Лоўля людзей кідае новае сьвятло на ўсю ўнутраную савецкую прапаганду. Усе кампаніі і працэсы, каторыя нарабілі столькі шуму ў прэсе, радыё, фільмах, прамовах і кнігах, мелі адную толькі мэту — лапаньне людзей пры помачы хваляў арыштаў. У 1923—1926 гадах адбывалася вынішчэньне кулакоў і сярэднякоў, прычым мільёны былых кулакоў былі засланы на будову Усходня-Сібірскай жалезнай дарогі. Ад 1926 г. адбывалася „Калектывізацыа Савецкага Саюзу“, а тады арштоўваліся сотні тысячаў т. зв. шкоднікаў і высылаліся на працу у баваўняныя фабрыкі, шахты, жывелагадоўчыя і ральнічыя калёніі. Асабліва цікавымі зьяўляюцца працэсы проціў шкоднікаў ў прамысловасьці, калі інжынероў і іншых кваліфікаваных работнікаў высылалі на аружэйныя заводы, на Урал ці праводзілі з іх помаччу электрыфікацыю ўздоўж берагоў Волгі.

У 1934 г. пачаліся знаменітыя палітычныя працэсы: як справа забойства Кірава, афэра Зіноўева - Каменева - Ягоды - Троцкага, справа Тухачэўскага і кампанія партыйнай чысткі. Гэтыя працэсы дастаўлялі рабочых на аружэйныя Заводы Далёкага Ўсходу, Сібіры, Уралу і для будовы каналаў Масква-Волга і Волга-Дон. Тысячы людзей былі тады расстрэляны, але мільёны засланы у няволю. Гэта-ж танны матар'ял для „Гулягу“ т. ё. гандлю людзьмі! Будова лётнішчаў, умацаваньняў, аўтадарог і аграмадная аружэйная прамысловасьць ставіла апошнімі гадамі вялікія вымаганьні „Гулягу“ пры дастаўцы нявольнічага матар'ялу.

Так праводзілася афіцыяльная лоўля людзей пад зьменнымі паролямі у Савецкім Саюзе. Амаль на кожную савецкую сям'ю прыпадае адзін член, каторы мучыцца ў такім лягеры. Запатрабаваньне на нявольнічы матар'ял зьяўляецца так аграмадным, што чырвоныя каты ня могуць пры помачы афіцыяльных мераў на час даставіць вымаганую колькасьць. Дзеля гэтага практыкуецца таксама мэтад брутальнага рабаваньня людзей. Сярод сваіх знаёмых я знаю многа такіх няшчасьлівых.

Найбольш любімым спосабам зьяўляецца тут пахішчэньне дзяцей. Тыповым прыкладам зьяўляецца выпадак вугорца Кушы. У 1937 г., пасьля таго як Кушы быў вызваны з заграніцы, яго ў Саветах арыштавалі і расстралялі як трацкіста. Яго жонка, швайцарка, ураджаная Пауля Брубахэр з 14-ці месячнай дачкой Соняй, пасьля расстрэлу мужа была вельмі ветліва запрошана праз Н.К.В.Д. на дачу для папраўкі здароўя. За два дні яны выехала на дачу ў аўце і таварыстве свайго дабрачынцы з Н.К.В.Д. Калі яна прыбыла на дачу, яе прывітала старэйшая жанчына ў вопратцы сястры міласердзя і ўзяла ад яе дзіця. Калі пані Кушы ўвайшла у дом, перад ёй раптам вырас функцыянэр Н.К.В.Д. з славамі: „мы ўжо доўга на вас чакаем.“ Ен прыказаў ёй сесьці назад у аўта і сказаў, што яна арыштована. Яе пасадзіді у Маскве на Лубянку, а потым сказалі, што яна як жонка Кушы прысуджана на 8 гадоў карнай зсылкі. Яна ніколі не даведалася, што сталася з яе дзіцём.

Вельмі цікавым зьяўляецца таксама лёс нямецкага камуніста, дэпутата Райхстагу, Эбэрляйна, каторы паў ахвярай тыповай для гэтае сыстэмы дэнунцыяцыі. У сваім готэлі ён выразіўся перад трэцяй асобай нярыязна аб прамове камуніста Піка ў Брусэлю. За гэта Н.К.В.Д. саслала яго на 8 год у карны лягер, дзе ён працуючы ў шахтах пасьля 3 гадоў памёр.

Ня толькі праўдзівых заграгічных камуністаў гэтак прасьледуе чырвоны тэрар, але і апалітычных урадоўцаў Камінтэрну на цэлым сьвеце. Я сам знаю два такія выпадкі, дзе абыдва заінтэрэсованыя прасілі ім памагчы, калі я выйду на волю. Гэта-справа Шварцфэлльнэра і Юргэнса (псэўдонім Цыркэль). Шварцфэлльнэр

быў тэхнічным работнікам Камінтэрну ў Нью Іорку. У 1930 г. Камінтэрн затрудніў яго як радыёфахоўца. 1938 г. ён быў запрошаны праз Інтурыст адведаць Савецкі Саюз. Калі ён прыехаў з жонкай у Маскву, на станцыі быў адразу арыштованы, а потым бяз усякіх выясьненьняў засуджаны на 10 гадоў лягеру ў Воркуце. Што сталася з ягонай жонкай, ён ніколі больш не даведаўся.

Падобны выпадак меў мейсца з Юргенсам, каторы з загаду камінтэрну працаваў пры кітайскай перадачы у Шанхаю і Манджурыі. У 1938 г. ён хацеў кінуць гэтую працу і вярнуцца да хаты. Калі ён праяжджаў праз Савецкі Саюз з сваёй жонкай, то яны абое былі арыштованы ў Маскве. Ен быў засланы на 10 гадоў лягеру, а яго жонка на 5 гадоў. Інтурыст таксама як Мопр дастаўляюць „Гулягу“ вымаганы нявольнічы матар'ял.

Я дзеля таго так падрабязна расказаў аб гэтым, што гэта ня есьць спарадычныя, але тыповыя для чырвонага тэрару выпадкі.

IV.

## Забойцы зьяўляюцца даверанымі людзьмі

Хто хоча пазнаць істоту савецкае ўлады, той не павінен узірацца на яе ліцавую старану. Ні савецкія законы, ані палітыка ці прапаганда, ані арганізацыя працы ці жыцьця ня могуць даць панятцьця аб тым, чым зьяўляецца ў сапраўднасьці Савецкі Саюз. Я думаю, што толькі з лягерных перажываньняў можна пазнаць усю подласьць і брутальнасьць гэтае сыстэмы, а таксама яе вырафінаваную маскіроўку. Цынізмам і іроніяй сусьветнае гісторыі есьць той факт, што якраз чырвоныя угнятацелі народных масаў граюць ролю місыянэраў праўдзівага сацыялізму і асвабадзіцеляў усіх народаў. Дзеля гэтага я рашыў апублікаваць неўшмінкованы і згодны з праўдай абраз лягернага жыцьця мільёнаў нявольнікаў Н.К.В.Д.

# Ідэалягічна блізкія людзі

Жыхары лягеру складаюцца з розных кастаў, каторыя і Н.К.В.Д. розна ацэнівае. Усе вязьні дзеляцца на 3 розныя групы. Вязьні групы З/К І — гэта крыміналісты, т. е. разбойнікі, забойцы, бандыты і абычаёвыя праступнікі. З іх, як з даверaных асобаў улады,



**У пушчах Пячоры і Ухты.**

Адзін з многатысячных Лясных лягероў, дзе зсыльнікі выконываюць сваю цяжкую, прыгонную работу.

складаецца ўправа лягеру, а таксама варта і камэндантура. Цяпер зрабілася мне ясна, чаму гэта можна быць зосланым бяз прысуду. Там, дзе камэндантура і варта складаецца з забойцаў, прызваітыя людзі могуць толькі капацца ў зямлі.

Ці-ж не характэрна, што гэтыя адпадкі чалавецтва поўняць сваю шпіцлёўскую службу пры Н. К. В. Д.?! Яны пад відам вязьняў выпытваюць людзей а потым іх дэнунц'юють. Каб гэтых суб'ектаў была трудна пазнаць, іх часта пераносяць з аднаго лягернага пункту ў другі. Кожны лягерны пункт мае 200—300 чалавек

такіх шпіцляў. Яны маюць права кантраляваць дахтароў і забіраць на работу тых, каторых дохтар прызнае хворымі. Усе паліцэйскія заданьні выпаўняюць такім чынам крымінальныя праступнікі, а жыды займаюць усе кіруючыя становішчы ў харчавых аддзелах. Яны зьяўляюцца панамі хлебных кашоў. Другую групу З/К II твораць прысуджаныя праз суд палітычныя праступнікі. Гэтая група ўжо лічыцца горшай ад крымінальных праступнікаў, але яшчэ „здольнай да паправы". З іх рэкрутуюцца малыя ўрадоўцы лягеру, як бухгальтэры, пісары, загадчыкі магазынаў, тэхнічныя працаўнікі бюраў, брыгадзіры і дзясятнікі. Гэтыя палітычныя праступнікі карыстаюцца яшчэ пэўнай ласкай Н.К.В.Д., дзеля таго што яны прызналіся да віны. Запраўднымі праступнікамі для Н.К.В.Д. зьяўляецца група З/К III, каторая мае найбольш вязьняў. Да гэтае групы належаць усе цяжка-палітычна падазронныя, каторыя ня прызналіся да віны. Звычайна закідаецца ім трацкізм, контррэвалюцыйная работа, шпіянаж, зносіны з заграніцай, агітацыя, сабатаж і т. д. З гэтае групы складаецца рабочая маса карнага лягеру. Гэтыя вязьні лічацца зусім непапраўнымі ворагамі народу. Вельмі цікава, што якраз людзям гэтае групы часта давераюць адказную работу. Такая работа зьяўляецца асабліва небяспечнай, бо тут можна заўсёды знайсьці шкоднікаў і прасьледаваць і караць іх далей.

## Тайна катлоў з зупай

Усе жыцьцё у лягеры ўрыхтована так, што істнаваньне ці неістнаваньне вязьняў узалежнена ад 12 катлоў зупы. Гэтыя катлы крыюць тайну усіх высілкаў, клопатаў, усе шыканы, ашуканствы і брутальнасьц, яны зьяўляюцца спапраўднымі ўладарамі ў гэтым нявольнічым раю.

Навокал іх круціцца ўсе жыцьце, але мусіць сам сатана абмерыў і вызначыў колькасьць знаходзячайся ў іх ежы. Кацел 1 і 2 стаяць ніжэй мінімум, патрэбнага для экзыстэнцыі. Вязьні, прысуджаныя да гэтых катлоў ня могуць ні жыць ні памерці, яны

атрымоўваюць два разы зупу і селядца на дзень. Вячэра лічыцца зусім непатрэбнай. Пры катле 2 атрымоўваецца таксама і вячэра, складаючаяся з т. зв. „булькі“, т. ё камка цеста з чорнай мукі, каторага нармальны чалавек ня можа зусім есьці. Гэтыя катлы прызначаны перадусім для інвалідаў ці іншых вязьняў, выключаных ад працы, каторыя такім чынам нявінна прысуджаны на голад. Уся рабочая маса атрымоўвае ежу з катлоў ад 3 да 8, прычым нумар катла прыдзеліваецца паводле колькасьці выкананай працы. Такім чынам голад аўтаматычна падганяе вязьняў да надлюдзкага напружваньня ўсіх сваіх сілаў, каб асягнуць вышэйшы нумар катла. Але розьніца у ежы гэтых катлоў так нязначная дабаўка так малая, што ў практыцы гэтае дарэмнае з'ужываньне сілаў ня мае сэнсу. Для асягненьня нпр. катла 8 патрэбна 200% выкананьне працы, пры чым нормы працы і так ужо высока вымераны. Толькі катлы 11 і 12 — карона тайны катлоў з зупай — даюць пармальную норму ежы. З гэтых катлоў ядзяць перадусім лягерныя жыды, а тэарэтычна таксама і т. зв. стаханаў, цы т. ё. тыя, каторыя выпаўняюць больш за 200% ці 300% нормы працы. У гэтым адбіваецца маска жыдоўскага садызму, каторы знаходзіць смак у мучаньні сваіх ахвяраў. Нажраўшыся досыту гэтыя жыдойскія лягерныя найміты сядзяць пры сваіх сталах ці йдуць з сваімі жонкамі ці каханкамі на спацыр каля рабочых пунктаў. Аскаліўшы іранічна зубы, загаварваюць яны да рабочых, зварочваючыся да іх „таварыш“, тады як рабочыя мусяць іх тытулаваць „грамадзянін“.

## Жыды і прастытуткі

Асабліва катастрафальным зьяўляецца палажэньне кабет у карным лягеры. Адносна нормы працы яны зроўнаны з мужчынамі і нягледзягы на іх слабейшую будову мусяць выпаўняць тыя самыя нормы, працаваць у шахтах ці пры зваліваньні дзераваў з пня. Жывуць яны ў палатках ці прымітыўных зямлянках. Ужо толькі з голаду наймаральнейшая кабета з часам становіцца

прастытуткай. У першую чаргу выкарыстоўваюць тут жанчын жыды, заведуючыя харчамі, і камэнданты.

Першыя робяць іх сваімі каханкамі, заманіваючы іх харчамі, тады як другія ўжываюць тут рэпрэсыяў на моцы свае ўлады.

Яшчэ горшым есьць палажэньне кабет на лягерных жаночых пунктах. Тут брак слоў, каб апісаць усё. Большасьць жанчын



**Лягер I, Уса, адзін з галоўных цэнтраў прымусовае працы каля Ледавітага мора.**

Высокі плот і калючы дрот агібае будынкі і палаткі нявольнікаў. Управа лягеру знайходзіцца ў будынку з савецкім флагам. Налева — дом урадоўцаў Н. К. В. Д. На заднім пляне будынак варты. Перад лягерам — радыястанцыя, каторая ўтрымоўвае лучнасьць з сьветам.

належыць да групы З/К III, што нясе ім жудасны лёс. Яны працуюць як мужчыны у брыгадах пры звалцы дроў і то пры кожнай пагодзе. Асаблівыя „любіміцы" Н.К.В.Д. зводзяцца у асобныя брыгады і адпраўляюцца на найцяжэйшыя работы, як шахты, капальні і т. д. Яны ўжо з аднае ўтраты сілаў хутка гінуць.

У кватэрах жанчыны жывуць разам з сваімі нованароджанымі дзяцьмі, даглядаць каторых ім ня пазваляе ні час ні абставіны. Калі дзеці маюць па 2 гады, Н.К.В.Д. ноччу адбірае іх назаўсёды ад матак. Пэўна ў дзяржаве праступнікаў думаюць, што кроў забойцаў асабліва надаецца для паўненьня там кіраўнічых роляў.

Гэткае рабаваньне дзяцей не заўсёды мірна праходзіць. Часта маткі адчаянна бароняцца, хочучы ўратаваць сваіх дзяцей, некатарыя вар'яцеюць, некатарыя папаўняюць самабойсты.

V.

# Гэтаму і сатана ня можа перашкодзіць!

## Адрубаныя пальцы — распоратыя жываты

Страшны млын вечнага і штодзеннага нявольнічага дня, паступовы духавы і цялесны ўпадак, прычынены голадам, непасільнай працай, агідай і ненавісьцьцю, выражаюцца ў катастрафальнай форме. Ня трэба дзівіцца, што кіраўніцтва лягеру вядзе сталую барацьбу з эпідэміяй самабойстваў. Хаця ўсе адпаведныя для самабойства прадметы, як нажы, вілкі, прылады, шнуры, шэлькі, рэмні, абсадкі ад вязьняў адбіраюць, робяць частыя рэвізыі у кватэрах і на целе, падчас найсуравейшых зімовых месяцаў здараюцца масавыя самабойствы, адбіраючыя 6%—7% рабочага калектыву. Многія рабочыя былі знойдзены павешанымі ў палатцы або на мейсцы працы на пасках разорваных кашуляў або канатах, патрэбных для выпаўненьня працы.

Побач з гэтай уцечкай да сьмерці існуе яшчэ ўцечка да гошпіталя. Дзеля таго, што з прычыны ўнутранае хваробы ня можна трапіць у лік хворых і адпачыць, многія вязьні вынайхадзілі іншы дэсперацкі манэўр – самаакалечаньне. Пакуль хворы ня мае 39° гарачкі, так што ня можа больш стаяць на нагах, яго не адпусьцяць з работы. Такім чынам амаль заўсёды хворыя на запа-

леньне лёгкіх, ці міжрабровае запаленьне прыходзяць тады лячыцца, калі ўжо позна. Транспарт у шпіталь адбываецца на санях ці пехатой, прычым адлегласьць мае 120 клм.! Амаль заўсёды гошпіталь бывае так перапоўнены, што гэтыя найняшчасьліўшыя з нешчасьлівых задаволены калі знойдуць прытулак на калідоры. Здараецца, што на працягу 24 гадзін паміpae ў адным ложку адзін за другім тры-чатыры асобы.



**Сьнежная бура, каторая робіць жыцьцё пеклам. 380 клм. ад граніцы палярных абшараў.**

Шахта III капальні Варкута.

Толькі хірургічныя выпадкі маюць шансы быць паважна і хутка патрактованымі. Дзеля гэтага многія вязьні прыбегаюць да самаакалечаньняў, каб хоць на пэўны час, калі не на заўсёды звольніцца ад невынасімае працы. Некатарыя адрубваюць сабе пальцы, некатарыя распорваюць сабе жываты аж да кішак пры помачы бляшанак ад кансэрваў. Любімым спосабам зьяўляецца

выкалываньне сабе вочаў пры помачы алавіка, каб выклікаць асьляпленьне, ці ушчыківаньне нафты ў скуру, каб такім чынам паўсталі цяжкія скулы ці гнойныя раны. Нішто ня можа больш ярка прадставіць адчаю гэтых нешчасьліўцаў, як вынаходчасьць і жудасьць гэтых самаакалечаньняў. Здарыўся нават такі выпадак, што вязень прабіў сабе калена вялікім гваздзём так, што трэба было ампутаваць усю нагу. Хваля такіх самаакалечаньняў ніколі ня ўціхала, ня гледзячы на суровыя кары і кантроль.

Для паміраючых, як для кролікаў даюцца зашчыкі каб рабіць экспэрымэнты, а падчас сэкцыі памёршых усталяецца дзеяньне гэтых зашчыкаў. Для здзеківаньня над паміраючымі даюць ім раскошную ежу, але тады, калі яны ўжо ня могуць есьці. Такі хворы нат'не дакранаецца ежы, каторая застаецца як дадатак для лекарскага і ўспамагаўчага пэрсаналю, складаючагася амаль выключна з жыдоў.

## VI.

## Жывыя трупы

Гэрмэтычная замкнутасьць карных лягераў і аддзеленасьць ад рэшты Савецкага Саюзу захоўваецца вельмі сурова, так што нават урадоўцы Н.К.В.Д. толькі з важных службовых прычынаў могуць мець доступ у лягер. Кожны іншы, ці то афіцэр Чырвонай арміі, ці урадовец Н.К.В.Д., каторы зьявіцца бяз службовых паўнамоцніцтваў будзе арыштованы. Дзеля гэтага карныя лягеры асабліва надаюцца да таго, каб якісь чалавек зьнікнуў раптоўна на даўжэйшы час ці на заўсёды, бо тады сьвет нічога не даведаецца аб ім. Нават савецкія установы, за выняткам Н.К.В.Д. ці „Гулягу“ ня маюць магчымасьці засягаць інфармацыяў, усе заявы застаюцца бяз адказу. Такім чынам мільёны зсыльных зьяўляюцца „жывымі трупамі“. Што нават сябры савецкага ўраду робяць ужытак з гэтае інстытуцыі, каб пазбавіцца нямілых членаў сям'і, ці іншых палітычна-нявыгадных асобаў, даказвае факт, што нпр. у нашым лягеры ў Варкуце спатыкаюцца знамянітыя саве-

цкія прозьвішчы. Так, паміж іншым там знайходзяцца абыдва сыны дзяржаўнага прэзыдэнта Калініна, каторыя супраціўляліся ягонаму паўторнаму шлюбу з 19-цігадовай дзяўчынай. Там знайходзіцца таксама Буценко, сэкрэтар украінскага Ц. К. партыі і сябра украінскага ўраду, Моратава, доўгі час правая рука Сталіна, Стаханаў, брат знаменітага „майстра вугля“ і т. д.

## Варочаючыяся на бацькаўшчыну жаўнеры бясследна прападаюць

Цікавым і актуальным зьяўляецца той факт, што тысячы расейскіх жаўнероў і афіцэраў, вяртаючыхся на бацькаўшчыну з фінскага палону, бязследна прапалі. Яны зьяўляюцца ахвярай ілжы савецкай прапаганды, каторая цьвердзіла, што фіны парастрэлівалі ўсіх палонных. Каб ня выявіць гэтае ілжы, усе палонныя пасьля пераходу граніцы былі адтранспартованы ў карныя лягеры, дзе яны мусяць бясследна прапасьць, бо перапіска у лягеры сурова забаронена. Іхнія сем'і думаюць, што іх няма ў жывых, а яны тымчасам вядуць безнадзейнае нявольнічае жыцьцё, зломаныя подласьцьую савецкага ўраду.

Справа ў тым, што гэтыя жаўняры павінны былі затаіць, што яны былі добра трактаваны ў Фінляндыі, што яны там бачылі шчасьлівы і культурна вышэйшы народ, усе тое, да чаго ня хоча прызнацца чырвоная прапаганда. Аднаго гэтага факту хапіла, каб прыказаць знікнуць гэтым жаўнерам, як палітычна падазронным суб'ектам.

Падобных мэтадаў ужывае савецкі ўрад і у часе гэтай вайны. І цяпер убіваюць у голаву савецкім жаўнерам што яны павінны змагацца да апошняга ўздыху, бо немцы забіваюць ваеннапалонных.

Што-ж за нямілымі сьведкамі праўды былі-б гэтыя вярнуўшыяся з Фінляндыі жаўнеры, калі-б не заслалі іх у карныя лягеры!

VII.

# Вар'ят – свабодны!

## Праўда мяне ратуе!

Застанаўляючыся над цынічнай пляновасьцьую савецкага нявальнічага жыцьця, я зразумеў, што нявольніцтва зьяўляецца істотай і канчатковай мэтай савецкага ўладарства. З гэтага вынікла мае захаваньне у адносінах да прадстаўнікоў гэтае сыстэ-



**Адзін з гаспадарчых цэнтраў лягеру ў Варкуце.**

На перадзе — каморы для харчоў і тавараў, на заднім пляне — ўладжаньні для транспарту вугля.

мы. Калі скончыўся тэрмін мае пяцігадовае зсылкі, Н.К.В.Д. прабавала затрымаць мяне на далей у лягеры, як патрэбную і карысную рабочую сілу. Але ўсе, каторыя згаджаліся на падобную прапанову ня мелі ужо больш магчымасьці быць свабоднымі, бо паводле законаў ня можна кінуць мейсца працы бяз згоды



сетка дзяржаўных жалезных дарог
новазбудаваная паўночная жалезная дарога
Будова паўночнай жалезнай дарогі (1941)
Вузкая жалезная дарога (ад 1935 г.)
аўтадарога
Будова каналу
Лятунскія лініі
Граніцы
лагеру прымусовай працы
Скарбы зямлі
каменны вугаль
нафта
нікель
плятына
асфальт
гэль
радзій
Новая Зямля
Карскае мора
Баранцава мора
Вайгач
Калгуеў
Самаедзкі Вокруг
Беламора
Рруднік
Варкута
Нікіта
Уса
Сангарадок
Нарян-Мар
Арбэс
Пустосерск
Любаска
Погшар
Уст-Усса
Сырты
Сокалаў
Кошва
Печора
Уст-Цільма
Іжма
Рыбінск
Ман-Я-Ур
1257
1298
Крутая
Тэлль-Пасс
1683
Архангельск
у Ленінград
Чыбю
Уст-Ухта
Троіцкае
Коіп
1041
Серагоўскае
Абшар Комі
Устьвім
Дзвіна
Сыктыўкар
Паўночны - Урал
Сібір
Котляс
Вельск
Уссольле
Морашэ
Сухона
0 100 200 300 400 500
кілямэтр
Часовая
Валогда
Кіраў
Молатаў
у Сьвярдлоўск
Колебніч
Яраслаўль
Кастрама
Кінэшма
у Ніжні-Ноўгарад
Кама
Волга

Н.К.В.Д., каторай яно, зразумела, ніколі ня давала. Аднак яшчэ два гады перад канцом мае зсылкі, маючы ўжо давалі перажываньняў і абсэрвацыяў гэтае прастуннае сыстэмы, я пастанавіў, што або вярнуся у Нямеччыну і гэтым здабуду сабе аканчальную свабоду, або зусім згіну. Я не хацеў ніякага кампрамісу з савецкай уладай. Страх перад гэтай сыстэмай змушаў многіх чужастранцаў да шуканьня свабоды праз кампраміс. Часта яны прыймалі савецкі пашпарт або заставаліся на кароткі час пасьля тэрміну ў лягеры, спадзяючыся што іх пасольства дапаможа ім вярнуцца на бацькаўшчыну. Большасьць такіх нешчасьліўцаў пасьля звальненьня бывае арыштована. Дзеля гэтага я пастанавіў шукаць іншае дарогі, і знайшоў яе. А іменна я гаварыў толькі чыстую праўду. Гэта была тут чымсь так няслыханым і немагчымым, што мяне сталі прыймаць за вар'ята. Гэтак я ўсьмяхаючыся сказаў сваім таварышам і ўрадоўцам Н.К.В.Д., што пасьля адбыцьця тэрміну кары вярнуся ў Нямеччыну. Многія з літасцьцю спазіралі на мяне, што знайшоўся гэткі ўтапіст. Іншыя прабавалі перасьцярагчы мяне, што гэткім спосабам я ніколі ня выбяруся з лягеру. На гэткія рады я толькі ўсьмяхаўся. Я адказваў, што для мяне існуе толькі адна альтэрнатыва — выехаць у Нямеччыну ці застацца ў лягеры.

Такім чынам яшчэ перад маім звальненьнем я асягнуў тое, што ніхто, а перадусім само Н.К.В.Д. ня браў паважна маіх плянаў. Гэта была мне вельмі на руку.

## Уцёкі

27 красавіка 1941 г. жыдоўскі начальнік уручыў мне дакумэнт звальненьня гаворачы, што я зьяўляюся расейскім падданым. Я адказаў яму, што зьяўляюся аўстрыйскім, а лепш кажучы нямецкім падданым, што гэта ўжо была ўсталена ў часе кантролі дакумэнтаў і што я не жадаю іншага падданства. Ен зрабіў зацемку на маім дакумэнце аб звальненьні, што паводле маіх цьверджаньняў, я зьяўляюся аўстрыйскім падданым, што аднак ня ня

сьцьверджана дакумэнтамі і што я павінен пасяліцца ў Балаклеі каля Харкава і адразу-ж туды ехаць. Апрача гэтага ён сказаў што, я як чужастранец не маю больш ніякай абароны і у працягу 24 гадзін павінен выйсьці з лягеру, а якнайхутчэй і з лягернага вокругу.

Мне была ясна што прадбачыцца многа труднасьцей у маёй падарожжы, але першы рашучы крок быў ужо зроблен, бо небяспека прыняцьця расейскага пашпарту была ужо ўхілена. Перш за усё я мусеў зрабіць пехатой 890 клм. а тады прадстаяла мне яшчэ цягнікoм 2.500 клм. да Масквы, бяз капейкі у кішэні, апрача грошаў на праезд да Балаклеі. Уся камунікацыя была так занята транспартам для лягераў, што я прадбачыў вялікія труднасьці скарыстаць з яе. Падчас мае язды з лягеру да Кірава я сустрэў больш за 50 этапаў, кожны ад 800 да 1.000 чалавек, з новым нявольнічым транспартам для лягераў. Мяне гэта ня дзівіла, бо яшчэ працуючы ў харчавым аддзеле лягеру я бачыў плян на пракармленьне 28 мільёнаў нявольнікаў у працягу 1941 году.

Я атрымаў з лягеру картку на прыдзел харчоў падчас майго падарожжа, на каторую нідзе нічога ня мог дастаць. Маючы ўжо шмат вопыту, я мусеў сам сабе дапамагаць. Я забраў з сабою з лягеру чайнік, каторы падчас падарожжы праз Савецкі Саюз зьяўляецца вялікім капіталам. Пазычаючы гэты чайнік я ўзамен атрымоўваў харчы і табак. Час ад часу я працаваў падчас падарожжа і такім чынам атрымоўваў гарачую страву і грошы. Гэтак я зарабіў грошы на падарожжа да Масквы. У Кіраве я меў першую магчымасьць дабрацца да Масквы, але жалезнадарожная кантроля Н.К.В.Д. перашкодзіла мне ў гэтым. У Горкім я прабаваў яшчэ раз і прыкінуўся зусім дурным. Я падыйшоў да камэнданта жалезнадарожнай кантролі Н.К.В.Д. і расказаў яму што я вяртаюся з штрафнага лягеру і павінен ехаць жыць у Балаклею, але мой пашпарт знайходзіцца ў Маскве у Мопры. Я прасіў яго парадзіць мне, як я магу дабрацца да Масквы, каб забраць свае дакумэнты. „Дык едзьце ў Маскву“ — адказаў